


Ася Вяйкоўская з Васькоў спяшаецца на зборны пункт, каб зараз жа ехаць на заняткі ў школу ў Нарве. Фота М. Гайдука.

№ 49 (1155) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 9.XII.1979 г.

**І. Сіняўскі**

# Суседскія дзяўчынкі

Бабка Мар'я мела некалі сям'ю: мужа і трох сыноў. Але вайна ўсіх мужчын забрала на фронт.

Чатыры гады чакала бабка Мар'я сваіх з вайны. Чакала і не дачакалася. Ні адзін не вярнуўся. Засталася яна адна. Пакуль маладзейшая была, хадзіла працаваць. А пастарэла — пенсію далі. Але як ні круціся — цяжка адной. Трэба за ўсім прыглядзець: і ў агародзе, і на двары, і ў хаце.

І вось старая пачала прыкмячаць, нібы яе работа сама сабой робіцца. Хоць і здароўем, і на памяць аслабела, але ж помніла, што збіралася ў гэты панядзелак выпалаць кветнік. Пасля дажджу трава ў ім разлапушылася і забуяла. Што збіраецца палоць кветнік, бабка нікому не казала. А прыйшоў панядзелак, зайшла ў агародчык і вачам не паверыла: каб дзе травінка! Пачала бабка ўспамінаць, калі гэта яна палола, доўга ўспаміпала і ніяк не магла ўспомніць.

Неўзабаве зноў здарылася ў бабкі Мар'і дзіва: толькі сабралася двор прыбраць, а ён ужо чысты. Чаго толькі не было ў яе на двары: і трэскі, і смецце рознае. І не дзіва — гаспадыня нямоглая. Сагнуцца цяжка, дзе ўжо за тым дваром глядзець. У хаце падлогу памыць і то няма сілы.

Аднойчы старая сабралася праведаць даўнюю сяброўку. Жыла тая ў другім канцы вёскі. Хацела старая дзверы замкнуць, ды не знайшла замка.

„Ат, хто ў маю хату палезе", — падумала яна і выйшла на вуліцу.

Непадалёк гулялі ў класы суседскія дзяўчынкі.

— Пабудзьце тут, дзеткі, — папрасіла яна, — а я да сяброўкі схаджу: даўно не бачыліся.

— Добра, бабка, — у адзін голас сказалі дзяўчынкі.

Сяброўку сваю бабка Мар'я дома не застала і вярнулася дамоў. Зайшла на двор, а дзверы хаты адчынены.

— Хто гэта там? — занепакоілася старая.

Заходзіць, а ў хаце суседскія дзяўчынкі Аня, Валя і Таня падлогу мыюць.



# ЧЫТАЕМ і пішам

# Ю Дж

Ю Ю Ю Ю Ю Ю Ю Ю Ю Ю

Н К І Ю Юля Юрась дзюдо

Юрый Гагарын — першы ў

свеце лётчык — касманаўт.

Д Дз Дж Д Дз Дж Дл Дв

У Дануты ёсць сабака

Джэк. Ён носіць у зубах

яе сумку. Дае лапу. Дзеці

ахвотна гуляюць з Джэкам.

У. Краўчанка

# ЗУБРЫ

Здарылася гэта ў канцы лета, у жніўні. Сяргейкаў тата працуе аграномам. Ён сёлета вясной быў пераведзены сюды. Як толькі сям'я абсталявалася жыць на новым месцы, Сяргейка адразу ўссеў на бацьку — звазі ды звазі ў Белавежскую пушчу паглядзець зуброў. Ды мала таго, што сам прасіў, а яшчэ і малодшую сястрычку Аленку падгаварыў, каб і яна прасіла.

Бацька ў Сяргейкі добры і не адмовіў дзецям у просьбе. Толькі ён сказаў, каб яны пачакалі, — вось няхай міне лета, адыдуць самыя гарачыя палявыя работы, а тады ён ужо як-небудзь выбера вольны дзянёк і звозіць іх у пушчу.

І вось дзянёк гэты нарэшце надышоў. Неяк у суботу бацька папрасіў у дырэктара на выхадны дзень машыну. Газік падкаціў да варот іхняй хаты рана-рана, але ні Сяргейка, ні малая Аленка ўжо не спалі.

Сяргейка зручней уладкаваўся на сядзенні, — ён сядзеў спераду побач з дзядзькам Сашам, а бацька з Аленкай ззаду, — і пачаў глядзець на дарогу, на палі.

Па дарозе было столькі розных уражанняў і яны так хутка змяняліся, што хлопчык і не заўважыў, як яны пад'ехалі да невялічкай вёсачкі, за якой пачыналася славутая Белавежская пушча.

На самым краі вёсачкі, бліжэй да пушчы, стаялі невялікія драўляныя дамы навуковай станцыі. Бацька, відаць, раней меў нейкую дамоўленасць, таму што не мінула і дзесяці хвілін, як ён выйшаў з канторы ўпраўлення запаведніка разам з маладым вясёлым хлопцам.

— Мяне завуць дзядзька Пеця, — усміхаючыся сказаў ён, і, прыжмурыўшы адно вока, нібы прыцэліўшыся, падаў руку спачатку Сяргейку, а потым і Аленцы.

Як выявілася, дзядзька Пеця быў навуковым супрацоўнікам запаведніка і ведаў пра пушчу і пра яе жыхароў вельмі многа цікавага. Перш за ўсё ён расказаў пра зуброў. Аказваецца, Белавежская пушча — адзінае месца на зямлі, дзе гэтыя дагістарычныя звяры жывуць у натуральных умовах.

Да рэвалюцыі зубры бязлітасна знішчаліся. Дзеля забавы цара і яго прыдворных у пушчы наладжваліся паляванні, у час якіх гінулі дзесяткі гэтых рэдкіх звяроў. Але асабліва шмат зуброў загінула ў час першай імперыялістычнай вайны, калі цэлыя зубрыныя статкі расстрэльваліся з кулямётаў. А пасля вайны з гітлераўскімі захопнікамі ў пушчы засталося ўсяго шаснаццаць зуброў.

Зараз у пушчы створаны найлепшыя ўмовы для жыцця зуброў.

З вялікай цікавасцю слухаў Сяргейка расказы дзядзькі Пеці. Акурат у гэты час яны ўехалі ў пушчу, у самыя яе нетры.

Што гэта быў за лес! На кожным кроку — вялізныя вываратні, завалы. Дрэвы тут, відаць, раслі, паміралі і падалі, і ніхто ніколі іх не прыбіраў.

Дзядзька Пеця расказваў, што калісьці гэтыя дрымучыя нетры насялялі плямёны яцвягаў — паляў-

нічых і звераловаў. І вось у гэты час, не даязджаючы якія два-тры кіламетры да зубрынага гадавальніка, і здарылася тое, нечаканае і страшнае. Наперадзе, крокаў за пятнаццаць ад машыны раптам мільганула і пераскочыла цераз дарогу нешта вялізнае і чорнае. Ніхто ў машыне не паспеў заўважыць, што гэта быў за звер. Следам за першым цераз дарогу мільгануў другі і трэці такі ж чорны прывід. Потым яшчэ, і яшчэ... І, толькі добра прыгледзеўшыся, людзі ў машыне пазналі, што гэта былі... зубры. Так, так, самыя сапраўдныя зубры! Яны перабягалі дарогу з правага боку на левы і, крыху адбегшы, спыніліся



воддаль на невялікай лясной палянцы.

Дзядзька Пеця трывожна і занепакоена варухнуўся на сядзенні.

Машына, запаволіўшы ход, памалу кацілася наперад. І дзеці, і бацька, і нават шафёр, затаіўшы дыханне, глядзелі на палянку. Зубрыны статак на волі — гэта было цудоўнае, незабыўнае відовішча.

Раптам дзядзька Пеця схапіў шафёра за руку.

— Стой! — загадаў ён шэптам.

Машына адразу спынілася, і вакол стала ціха-ціха, толькі чуваць быў роўны аднастайны шум пушчы. Дзядзька Пеця раптам загадаў: — Не варушыцеся і маўчыце. Бачыце?..

Толькі цяпер усе зразумелі, чаго так спалохаўся дзядзька Пеця, — наперадзе, зусім блізка, за дзесяць крокаў ад машыны, займаючы амаль усю дарогу, упоперак яе нерухома стаяў вялізны зубр. Грозна апусціўшы ўніз сваю грывастую галаву і скоса пазіраючы на машыну, ён і не думаў сыходзіць з дарогі. Стаяў, час ад часу з шумам нездаволена фыркаў і пярэдняй нагой гроб зямлю, так што аж камякі ляцелі ўгору.

— Калі яго нічога не патрывожыць, — прашаптаў дзядзька Пеця, — ён нас не кране.

Так, не рухаючыся з месца, насцярожаны зубр стаяў, можа, хвілін пяць. І ўвесь гэты доўгі-доўгі час усе з захапленнем і затоенай трывогай, не адрываючыся глядзелі на ляснога волата.

Раптам зубр, відаць, супакоіўшыся, сышоў з дарогі і падаўся да статка, які ўжо даволі далёка ўглыбіўся ў лес. Зубр, мабыць, і затрымаў машыну, каб даць магчымасць адысці статку. Цяпер ён прапускаў газік далей у пушчу, адыходзіў з дарогі, але трэба было бачыць, як ён гэта рабіў, якой велічнай і ўладарнай была яго паходка. Як жа, ішоў не абы-хто, а паўнапраўны гаспадар пушчы!..

**(У скарачэнні)**



# ПАГЛЫБЛЯЙ



# СВАЕ ВЕДЫ



## СІМВАЛ МІРУ

Сімвал міру — белы голуб. А ці ведаеце вы, хто і калі ўпершыню намаляваў гэтага голуба?

Аўтар малюнка — вядомы іспанскі і французскі мастак Пабла Пікаса, які ўсё жыццё прысвяціў барацьбе супраць фашызму. Яшчэ ў дзяцінстве ён любіў маляваць галубоў. Гэтая тэма сустракаецца і ў творчасці дарослага мастака. У 1949 годзе голуб паявіўся на плакаце Сусветнага кангрэсу прыхільнікаў міру. Аўтар плаката Пабла Пікаса быў узнагароджаны Міжнароднай прэміяй Міру, а яго голуб стаў сімвалам міру і дабра.

## ВЯСЁЛКІ

Колькі можа быць вясёлак на небе? Калі вы скажаце — адна, дык памыліцеся. Вельмі часта можна наглядаць дзве вясёлкі, якія размясціліся на небе адна над другой. А вось у верасні 1948 года ленінградцы ўбачылі, як над Нявой паявіліся адразу чатыры вясёлкі. Гэта з'ява тлумачыцца тым, што вясёлка ўтвараецца не толькі ад прамых сонечных праменняў, але і ад тых, што адбіваюцца ад паверхні марскіх заліваў, рэк, азёраў.

Вясёлку можна ўбачыць не толькі ўдзень. Не вельмі моцная, яна часам паяўляецца і ўначы пасля дажджу, калі з-за хмар выглядае месяц.

## МУЗЕЙ ЦАЦАК

У Чэнстахове ёсць дзіўны музей — музей цацак. Чаго толькі няма! Старадаўняя керамічная трашчотка і лялька, што ўмее гаварыць, драўляны возік, а побач з ім — мадэль касмічнага карабля... Проста рай для дзяцей!

## КЛОПАТЫ АД РОСТУ

Яго рост 2 метры 24 сантыметры. Ён жыве ў заходнегерманскім горадзе Ланген (зямля Гесен). І хоць, як па іроніі лёсу, ён носіць прозвішча Кляйн, што значыць „малы", гэта самы высокі жыхар ФРГ. Яго суайчыннікі, якіх прырода таксама не пакрыўдзіла ростам, стварылі клуб рослых людзей. Абавязковая ўмова прыёму ў члены клуба — вядома, рост: мужчыны павінны быць не ніжэй чым 1 м 90 см, жанчыны — не ніжэй чым 1 м 80 см. Цяпер у заходнегерманскім клубе рослых людзей налічваецца больш 2500 чалавек.

Адна з задач клуба — дапамога людзям высокага росту, якім часта даводзіцца нялёгка. Розныя „нязручнасці" і „выдаткі" ўзнікаюць у іх пры куплі рэчаў і абутку, у гасцініцы і нават ва ўласнай кватэры. Ды і колькасць прадуктаў, якія спажываюць рослыя людзі, паводле сведчання медыкаў, на 15 працэнтаў большая за звычайную норму.






## ЁЛКА

**Словы К. Даяна**
**Пераклад А. Ставера**
**Музыка Х. Заімава.**

*Спяваецца даволі хутка.*

Наша ёлка маладая
Стройна стала ля акна,
А на ёй сняжынкі таюць,
Срэбрам свеціцца яна.
**Прыпеў:**
Нам кружыцца і скакаць
Ля ёлкі весела.
Эх ты, ёлачка,
Зялёныя іголачкі!

Зіхацяць на ёй вясёлкі,
Залацістыя агні.
На ўпрыгожаную ёлку
Гляне месяц з вышыні.
**Прыпеў.**

Нашу ёлку хай убачыць
З неба зорка ў гэты час,
Бачыць хай, як дзеці скачуць,
І хутчэй ляціць да нас.
**Прыпеў.**

З неба зорка залатая
Прыляціць у карагод.
І над ёлкай запалае,
З намі стрэне Новы год!
**Прыпеў.**




* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 93, кв. 75. Света Лашчэўская, 15 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, зав. Мендзялеева, 3. Лена Трайнель, 15 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 77/1, кв. 10. Таццяна Трафімовіч, 14 гадоў.

**М. Васілюк**

## ВЫДАТНІК

*Выдатнік класны Лейкін Міша*
*Чытае добра, чыста піша...*
*Калі ж — здараецца нярэдка! —*
*Не разумее ён чаго,*
*То да настаўніцы-суседкі*
*Бяжыць, што сілы ёсць, бягом:*
*— Дапамажыце, калі ласка,*
*Задачкі адшукаць развязку!..*
*І ўжо назаўтра раніцой*
*У класе ходзіць, як герой:*
*— Вы не рашылі? Я адолеў,*
*Хоць пасядзеў над ёй даволі...*
*— То, можа, мне б ты*
*растлумачыў? —*
*Гаворыць Лейкіну Андрэй...*
*Для Мішы тут з задач задача:*
*Ішчэ першынства адбярэ!..*
*І сябру ён пачне казаць:*
*Вось выкліча, паставіць*
*„пяць“*
*Настаўнік мне!.. Тады задачу*
*Табе, Андрэйка, растлумачу...*
*...Сябрам дапамагае гэтак*
*„Выдатнік“ па усіх прадметах.*

## Адгаданка




Кожны з малюнкаў першага вертыкальнага раду мае нешта супольнае з малюнкамі другога раду. Спалучыце малюнкі, азначаныя літарамі, з адпаведнымі ім малюнкамі, азначанымі лічбамі.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Бабка, ці праўда, што ты спала ў куратніку?
— А хто табе сказаў?
— Тата казаў, што ходзіш спаць з курамі.

* * *

— Успомні, Пеця, — кажа настаўнік, — што робіцца з промнем святла, калі ён трапляе ў ваду?
— Нічога спецыяльнага. Спачатку ўваходзіць, а потым выходзіць.
— Якім?
— Мокрым.

Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.